Opłata ... Цана асобнага нумару 25 грошай.

№ 1 ... 12 тра... ...ду. Год II.

# БЕЛАРУСКІ ДЗЕНЬ

## ТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ

| Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: | Падпісная цана: | Цана абвестак: |
|---|---|---|
| Wilno (Вільня), Сьвятаянская вул. (ul. Świętojańska) № 9, кв. 1. Тэлефон № 1207. | На 1 месяц—1 зл., на 3 месяцы—3 зл., на паўгода — 5 зл. і на год — 9 зл. Заграніцу ўдвая даражэй. | За цэлую апошнюю старонку—120 зл., за 1/2 — 65, за 1/4—35, за 1/8 — 20 зл. За міліметравы радок перад тэкстам 25 гр., у тэксьце 30 гр. і за тэкстам 10 гр. |

## Дэманстрацыя камуністычных паслоў.

Дня 4 траўня на 45 дзень працэсу Грамады, камуністычныя паслы польскага Сойму Варскі, Бітнэр, Валіцкі, Росяк і Гаврон зрабілі дэманстрацыю на салі Віленскага Акрруж. Суда, вітаючы ад імя работнікаў падсудных у справе Грамады. Каму патрэбна была гэная дэманстрацыя, і якія могуць быць рэзультаты яе?

Калі прыняць пад увагу, што галоўнай задачай пракуратуры ў гэтым працэсе зьяўляецца даказаць суду магчыма блізкую сувязь Грамады з камуністычнай партыяй, то рэзультат гэнай дэманстрацыі, якая гэтак наглядна падкрэсьліла сымпатыі і духоўную блізкасьць відных прадстаўнікоў мясцовага камунізму да падсудных у справе Грамады, можа быць толькі адзін: камуністычныя паслы сваей дэманстрацыяй аблягчылі задачу пракуратуры.

Ніхто ня можа вінаваціць бальшавікоў у наіўнасьці, дзеля гэтага ня можна дапусьціць, каб гэтыя відныя прадстаўнікі трэцьцяга Інтэрнацыяналу ня ведалі што робяць, не прадбачылі рэзультатаў свае дэманстрацыі. З другога боку трудна таксама дапусьціць, каб дэманстрацыя камуністых мела на мэце падтрымаць бадзёрны настрой у прыгнечаных горам, засядаючых на лаве падсудных людзей, у канцы разьвязкі цяжкой драмы, якой зьяўляецца паўстаньне, рост, ліквідацыя і ўрэшце працэс Грамады. Ня можна дапусьціць дзеля таго, што камуністыя сваей тактыкай даказалі, што яны сэнтымэнтаў ня любяць. Сэнтымэнталізм гэта—запярэчаньне тэорыі і практыкі камунізму.

Сапраўды, ці можа быць гутарка аб сынтымэнталізьме у партыі, каторая прапаведуе тэрор і для зьдзейсьненьня сваіх мэтаў не затрымліваецца перад масавымі расстрэламі. Ці можа быць гутарка аб сэнтымэнталізьме там, дзе інтэрас партыі зьяўляецца найвялікшай сьвятыняй, найвялікшым ідэалам, у ахвяру каторому трэба прынясьці ўсё. І не сэнтымэнталізм кіраваў чынам камуністычных паслоў у памятны дзень чацьвертага траўня ў салі Віленскага Акр. Суда: дэманстрацыя была зроблена імі толькі дзеля таго, што гэтага вымагалі інтарэсы камуністычнае партыі. Яны добра ведалі, што робяць, яны разумелі, што дэманстрацыяй сваёй згушчаюць хмары над галавамі падсудных, яны добра разумелі, што аблягчаюць гэтым задачу пракуратуры, што дэманстрацыяй сваёй робяць вельмі цяжкім становішча абароны, што выступленьне іх можа цяжка заважыць на долі падсудных.

Яны ўсё гэта ведалі.

Але што для камуністычных паслоў доля гэнай жменькі людзей, калі інтэрас камун. партыі вымагае, каб увесь сьвет думаў, што Грамада і камуністыя, што беларускае сялянства і камуністыя — гэта адно і тое самае, а тысячы сяброў Грамады, гэта—тысячы барацьбітаў за камуністычныя ідэалы. Што можа ім значыць доля падсудных, калі цяжкі прыгавар над грамадаўцамі

дасьць магчымасьць бальшавіком крычаць на ўвесь сьвет, у імя інтарэсаў кам. партыі, аб „расправе польскіх фашыстых над беларускімі сялянамі і рабочымі“ і ліць горкія сьлёзы над іх доляй і над доляй падсудных, над доляй іх жонак і дзяцей, пазбаўленых сваіх кармільцаў.

Калі прыняць пад увагу, што ўжо з самага пачатку працэсу Грамады, бальшавікі, жадаючы выкарыстаць яго для вышэйшых інтарэсаў свае партыі, рабілі ўсё, каб стварыць магчыма цяжкія варункі для абароны падсудных і калі дадаць да гэтага факт апошняга іх выступленьня ў салі суда, то прыдзем да перакананьня, што дэманстрацыя камуністычных паслоў чацьвёртага траўня была нічым болей, як новай правакацыяй бальшавікоў, ахвярай каторай на гэты раз зьяўляюцца падсудныя ў справе Грамады, а гэнае прывітаньне іх можна параўнаваць хіба толькі з пацалункам Юдаша. Здаецца нам, што так, а ня іначай прынялі яго і падсудныя, з твару каторых можна было вычытаць словы: „Людзі, што вы робіце, вы губіце нас“.

На старонках „Бел. Дня“, мы ня раз папераджалі беларускае грамадзянства перад правакацыйнай работай бальшавікоў. Гэты новы факт зьяўляецца толькі красамоўным пацьвярджэньнем усяго таго, што мы казалі.

Беларускае грамадзянства павінна ўрэшце зразумець усю агіду іх хітрай правакацыйнай работы і знайсьці ў сабе сілы, каб даць урэшце моцны дружны адпор гэным бальшавіцкім груганом, жыруючым на горы і цемры беларускага сялянства.

## Лёс сялян у С. С. С. Р.

У працягу 10-цёх гадоў свае дыктатуры, г. зн. такое формы панаваньня, калі ўрадоўцам можа быць толькі прыналежны да камуністычнае партыі, пачаўшы ад валаснога старшыні, пісара і аж да міністра, бальшавікі шмат разоў ашукалі свае сялянства. Але ня толькі яны пазьдзекаваліся над сялянамі. Таксама нягодна паступілі камуністыя з работнікамі, вучонымі, з усёю інтэлігенцыяю і з усімі грамадзянамі вялікага і багатага краю, які пры добрым ладзе мог-бы зрабіцца другою Амэрыкаю.

Але аб гэтых зьдзеках камуністых над усім насельніцтвам С. С. С. Р. мала ведама за яго граніцамі. Сталася гэта дзеля таго, што з аднаго боку камуністыя ў С. С. С. Р. навялі такі страх на ўсіх сваіх грамадзян, так акружылі іх шпікамі і сыскам, што у С. С. С. Р. усе баяцца гаварыць голасна аб сваіх крыўдах і цяжкім жыцьці. За кожнае слова аб гэтым грозяць вялікія кары, аж да растрэлу ўключна. І пацішу гаварыць нельга, бо сын, жонка, брат ці сястра, якія зьяўляюцца камуністымі, могуць данясьці каму трэба і тады суд ня толькі карае турмою, але адбірае і ўсю маемасьць.

У С. С. С. Р. езьдзілі шмат якія заграцічныя вучоныя, якіх бальшавікі ўпусьцілі ў свой край. Гэтыя вучоныя цікавіліся варункамі жыцьця пад урадам „работнікаў і сялян“, як называюць камуністыя свой урад. Ведама, бальшавікі ім паказвалі толькі тое, што хацелі паказаць і што дзеля паказу пабудавалі.

Такія дасьледчыкі жыцьця ў С. С. С. Р. былі пад апекай агентаў бальшавіцкае паліцыі, маглі гаварыць толькі з тымі, каго да іх дапусьцілі і падаслалі. Сапраўднага сялянскага жыцьця, сялянскае бяды і галіты, цяжкага палажэньня работнікаў, такія аглядчыкі і дасьледчыкі з-за граніцы не маглі бачыць і пасьля апісаць. А нават калі-б і здарылася ім спаткацца з сапраўднымі сялянамі, а не апранутымі ў сялянскую вопратку камуністымі-сышчыкамі, то і тады ніколі ня могуць яны пачуць праўды аб варунках сялянскага жыцьця, бо сяляне ведаюць, якая ім грозіць кара за слова праўды. Дык маўчаць, або ня кажуць праўды.

І пасьля такія „дасьледчыкі“ савецкага жыцьця апісваюць у сваіх кніжках аб жыцьці ў С. С. С. Р., якое, ведама, хваляць. Часта за гэткае апісаньне ім добра заплацяць грашыма, сабранымі сілай ад прыгнечаных савецкіх сялян.

І шырыцца думка па Эўропе, што бальшавікі паправілі лёс свайго сялянства і работнікаў. Робіцца прапаганда камунізму, чаго так хочуць бальшавікі, а рабіць прапаганду яны майстры.

З другога боку, ў кожным краі працуюць свае камуністыя, аплачваныя расейскімі бальшавіцкімі грашыма, сьцягненымі з сваіх сялян.

Бо ўсюды, на ўсём сьвеце камуністыя працуюць за грошы расейскія, прысыланыя ім з Масквы, якая імкнецца да таго, каб рабіць непарадкі і бунты ў кожнай дзяржаве.

І вось гэтыя аплачваныя Масквою краёвыя камуністыя шыраць адну толькі хвальбу аб жыцьці ў С. С. С. Р., дзе ўсё так добра і ўсім так слаўна жывецца. Яны, як калісь, у 1917 г. бальшавікі ў Расеі, кажуць, што згінуць усе беды і крыўда толькі тады, калі ўладу ўсюды вазьмуць камуністыя. Гэтыя аплачваныя Масквою і для маскоўскага імпэрыялізму працуючыя агітатары — краёвыя камуністыя — завяліся і ў нас, на беларускіх землях. Вядуць тут сваю нягодную работу сярод сялян, якім цьвердзяць, што пад панаваньнем камуны вельмі добра, што пры ўладзе камуністых згінуць паны і асаднікі, што тады ня будзе падаткаў, а зямлі, колькі кожны селянін захоча.

Агітуючы гэтак сярод сялянства, гэтыя прыслужнікі маскоўскіх камуністых кажуць, што там ў С. С. С. Р. для сялян проста райскае жыцьцё.

І дзякуючы цяжкім варункам жыцьця нашага сялянства, якое адчувае на сабе дагэтуль вынікі вялікае вайны, калі ўсё багацьце краю і грамадзян зьнішчылася, якое дагэтуль разам з усімі народамі не дайшло да перадваеннага палажэньня і дабрабыту, сяляне падчас вераць хітрым словам агітацыі сваіх найвялікшых ворагаў — камуністых.

Бо-ж сапраўды няма на сьвеце большага

сялянскага ворага, як камунізм. Гэта добра адчулі ўжо на сабе расейскія сяляне.

Яны таксама паверылі бальшавіцкім абяцанкам у 1917 г., калі ім абяцалі камуністыя зямлю, волю і мір. А, узяўшы ўладу ў свае рукі, замест міру, растрэламі ня толькі салдатаў, але і іх сем'яў, гналі расейскіх сялян на далёкую Варшаву, дзе хацелі таксама зьнішчыць усё, як зьнішчылі ў сябе. Замест волі ўвялі няволю, бо караюць селяніна за яго малітву ў царкве, забіраюць селяніну апошні пуд збожжа і плацяць не грашмі, а паперкамі пазыкі, якую адбіраюць сілаю, замест права свабоднага выбіраньня вясковае ўлады, старастаў і старшыняў, прысылаюць з местаў рабочых-камуністых, якія зьдзекуюцца над сялянамі.

Найгорш, аднак, ашукалі бальшавікі сялян у зямельным пытаньні. Праўда, бальшавікі зьнішчылі паноў-абшарнікаў. Але ці абшарніцкую зямлю яны аддалі сялянам? Куды там! Зусім не.

Яны большую часьць забранай у абшарнікаў зямлі аддалі пад камуністычныя зямельныя гаспадаркі, г. зв. *совхозы (советскія хозяйства)*, дзе працуюць на палажэньні парабкоў тыя сяляне, якія ўпісаліся ў камуністычную партыю. Меншую часьць абшарніцкае зямлі бальшавікі пазволілі ўзяць сялянам, але няма ў цэлым С. С. С. Р. такога селяніна, які мог-бы сказаць, што зямля гэтая ягоная *ўласнасьць*.

Бо бальшавікі не прызнаюць уласнасьці на зямлю. Яны імкнуцца да таго, каб усе сяляне зрабіліся парабкамі на „савецкіх гаспадарках" г. зв., „совхозах", каб ня мелі свае ўласнае зямлі. І толькі таму пазволілі сялянам абрабляць зямлю абшарніка, што ня было каго пасадзіць на такі „совхоз", бо сяляне ўсюды аднолькава хочуць мець свой уласны кусок зямлі, якога ніхто ня мог-бы ад іх адабраць. Дык і расейскія сяляне адмаўляліся іськці да гэтых „совхозаў", дзе ўсёю працаю загадвалі камуністы, нібы даўнейшы пан, і дзе нават конь, карова і ўся рухомая маемасьць ня была ўласнасьцю сялян-работнікаў „совхозу". Усе гэтыя „совхозы" пабанкрутавалі, гаспадарка там вялася блага, вецама, як на чужой зямлі і пад прынукай камісара. Здавалася тады, што бальшавікі ўступяць жаданьням сялян і прызнаюць уласнасьць на зямлю, якую кожны абрабляе. Пару гадоў, пасьля голаду, сяляне адмаўляліся і ад зямлі і ад працы на ёй, бо ня верылі ў тое, што запрацаванае на зямлі будзе іх уласнасьцю, якою могуць паводле свае волі распараджацца. Тым больш, што бальшавікі ўсё збожжа ад сялян забіралі і вывозілі за граніцу, а грошы за яго аддавалі на агітацыю на ўсім сьвеце. І так без канца—зрабаваўшы сялян, забраўшы ў іх потам і крывёю запрацаванае і здабытае збожжа, выкідаюць бальшавікі іх дабро на тое, каб уцягнуць у свае сеці, каб мець новых сялян для эксплёатацыі.

Цяпер бальшавікі пачалі ізноў рабіць савецкія гаспадаркі—„совхозы". На гэтыя гаспадаркі прысылаюць бальшавікі безработных з местаў. Але зямлю для такіх гаспадарак трэба браць ад сялян, што бальшавікі і робяць.

Газэты падаюць, што ад шмат якіх вёсак забрана пад камуністычныя гаспадаркі па 1 500 дзесяцін і сяляне пачынаюць бунтавацца, забіваюць камісараў і камуністых.

Яшчэ большаю манаю аказаліся абяцанкі бальшавікоў, што сяляне ня будуць плаціць падаткаў. А, як аказваецца, сяляне ў С. С. С. Р. плацяць большыя падаткі, чымся перад вайною. Бальшавікі падзялілі сялян на 3 катэгорыі: г. зв. „беднякі", „серадиякі" і „кулакі".

„Беднякі" плацяць падатку па 5 рублёў з дзесяціны, „серадиякі" па 10, а „кулакі" па 15 і 20 руб. ад кожнае дзесяціны. Хто мае 5 дзесяцін залічваецца да беднякоў, але калі ён выга-

## Аб гыпнотызьме.

(Гл. № 17 (57) „Белар. Дня".)

Ведаючы, якой вялікай і страшнай сілай зьяўляецца гыпнотызм, я прыняў, як аснову, карыстацца з яе толькі тады, калі гэта будзе патрэбна для дабра таго ці іншага чалавека. Гыпнатызаваць для жартаў, для пахвальбы, каб паказаць, што я вось умею гыпнатызаваць, я лічыў немагчымым.

А трэба сказаць, што ў гэтым напрамку няраз трэба было быць вельмі стойкім, каб вытрымаць сваю лінію. Бо калі толькі пайдзе гутарка аб гыпнотызьме і даэнаюцца людзі, што ўмееш гыпнатызаваць—зараз пачынаюць прасіць: загыпнатызуйце мяне, пакажэце нам, як гэта робіцца. Асабліва цікавяцца гэтым жанчыны і, каюся, некалькі разоў мусіў уступаць іх просьбам. Першы раз мне прышлося выкарыстаць гыпнотызм для дабра чалавека—ад'звычаіўшы таварышку дзіцячых год маіх Марысю С. ад курэньня табакі, якая вельмі шкоднай была для яе здароўя.

Прыходзіць раз яна да мяне і жаліцца: „Нездаровіцца, кажа, мне, грудзі баляць, дохтар прыпісаў лякарства і загадаў, каб кінула курыць. Вось ужо другі тыдзень мацуюся, хачу кінуць, але нічога ня выходзіць.

— Хочаш, я табе памагу,—запрапанаваў я.

— Паможаш, а як?

— Загыпнатызую і скажу, каб ня курыла, і ня будзеш курыць.

Марыся ўсьцешылася. Я хутка ўсыпіў яе, надзіва лёгка паддалася гыпнотызму. А трэба ведаць, што адны людзі лягчэй паддаюцца гыпнотызму, іншыя зноў доўга не засынаюць і іншы раз добра трэба намардавацца, пакуль даб'ешся свайго.

А тая праз якіх дзьве-тры хвіліны ўжо спала моцным гыпнотычным сном. Тады я пачаў ёй нагаварваць. Сяньня да канца дня (а было гэта а гадзіне 5-ай пасьля паўдня) паненка выкурыш толькі дзьве папіроскі, заўтра праз цэлы дзень толькі пяць папірос, у наступны дзень—чатыры, далей яшчэ на адну папіроску меней, ажно праз пяць дзён зусім кінеш курыць. А калі-б ня вытрымала і закурыла болей, чым я загадваю, то тады папіроска будзе мець для паненкі гэткі паскудны смак і гэтак будзе сьмярдзець, што ўсё роўна ня будзеш курыць яе.

А цяпер,—кончыў я,—я буду лічыць ад аднаго да дзесяцёх і паненка будзеш паволі будзіцца з гыпнатычнага сну, а як скажу: дзесяць—прасьнешся зусім.

Гэтак наказаўшы, я пачаў лічыць і пасьля

дуе 10 авец, дык ужо пераводзіцца ў разрад „серадьнякоў“ і мусіць плаціць падвойны падатак.

Такім чынам нішчыцца дабрабыт і заможнасьць сялян, што якраз згаджаецца з праграмай камуністых, якія імкнуцца заўсёды і ўсюды да нішчэньня і руйнаваньня жыцьця, і стварэньня поўгалодных і гатовых на ўсё беднякоў, якіх можна кінуць ізноў на бойню, ў новую вайну для пашырэньня камунізму.

*С.*

## Аб „радыкалах“ і радыкалізьме.

Радыкаламі называюцца людзі, якія імкнуцца да перамены формаў грамадзкага жыцьця церав надзяленьне свабодай і грамадзкімі правамі тых слаёў насельніцтва, якія гэтых правоў пазбаўлены. Радыкалы змагаюцца з прывілеямі клясаў, партыяў і паасобных людзей, выступаюць проціў тытулаў, проці вызыску і ўціску адных другімі, гэта людзі, якія стараюцца аб завядзеньні на сьвеце найбольш справядлівага соцыяльнага і палітычнага строю.

Радыкаламі былі некалі ўсе тыя, што змагаліся з паншчынай, радыкаламі лічыліся тыя барацьбіты, якія дамагаліся лепшых умоваў працы для работніка і селяніна. Радыкаламі зьяўляюцца і цяпер людзі, якія вядуць барацьбу за справядлівую зямельную рэформу для працоўнага безьзямельнага і малазямельнага сялянства, якія выступаюць проціў уціску аднаго народу другім, аднае клясы другою толькі дзеля таго, што капітал і маемасьць знаходзіцца ў руках клясы сільнейшай.

У нас, беларусаў, апрача аднае ці двух асобаў, якія былі гасьцьмі ў беларускім адраджэнскім руху (Скірмунт, Радзівіліха), ўсе беларускія адраджэнцы па паходжаньні належалі да клясы, якая змагалася і змагаецца дагэтуль за свае людзкія, грамадзкія і нацыянальныя правы. Гэтыя адраджэнцы і правадыры народу належалі да радыкальнага руху, бо ўвесь працэс адраджэньня беларускага народу зьяўляецца рухам радыкальным.

Радыкалізм прызнае за галоўнае вымаганьне роўнасьць грамадзян ува ўсіх галінах жыцьця, радыкалізм гэта чыста дэмакратычны напрамак грамадзкага руху.

Радыкалізм заўсёды меў вялікага ворага ў асобе тых клясаў і тых людзей, якія свае прывілеі і пануючае палажэньне выводзілі з „ласкі Божай“ ці з „міласьці Божай“, з „волі народу“, з „заслугаў далёкіх продкаў“, але толькі не апіраліся на свае заслугі і на сваю вартасьць.

Проціў радыкалізму заўсёды заўзята змагаліся тыя, ад каго вызваляючыся чалавек, дагэтуль падняволены і без правоў, здабываў сабе правы і ламаў усе прывілеі сваіх паноў.

У апошнія часы паявіліся два новыя ворагі ўсякага радыкальнага руху і радыкальнае думкі. Гэтымі ворагамі зьяўляюцца родныя сабе па мэтах і па спосабе змаганьня з радыкалізмам палітычныя напрамкі, ці сыстэмы—камунізм і фашызм. Абодвыя яны адкідаюць падставы дэмакрацыі і радыкалізму — роўнасьць грамадзян перад правам, прызнаюць прывілеі толькі аднае партыі і абодва апіраюцца на тэроры і зьдзеку. Камунізм мае чырвоны твар, фашызм—чорны. Фашызм пакуль што істнуе ў далёкай Італіі, камунізм зьвіў сабе гняздо блізка нас у С. С. С. Р., дзе пануе таксама над вялікай часткай беларускага народу.

Камунізм паявіўся нядаўна, ён вырадзіўся з радыкальнага соцыялістычнага руху, калі часьць соцыялістых, захопленая жаданьнем панаваньня і ўлады, адкінула ў бок усё тое, за што змагалася і паставіла сябе на месца выкіненае з царскае Расеі княжаскае фаміліі, з правамі і прывілеямі, данымі ёй нібы „міласьцю Божай“.

---

„дзесяцёх“ паненачка адчыніла вочы і прачхнулася.

— Што гэта было?—дзівавала Марыся, — я здаецца сапраўды спала? Вось камэдыя!—Што з ёй было падчас сну, што я ёй наказваў—яна не памятавала зусім. Праз гадзіны дзьве, яна выкурыла тыя дзьве папіроскі, якія я ёй пазволіў выкурыць у гэты дзень і больш не хапалася да курэньня. Тады адзін з кампаніі, які быў сьведкай гэнага сэансу і чуў усе мае наказы, захацеў пераканацца, ці сапраўды гэткую моц маюць яны і, выняўшы парцыгару,—пачаставаў Марысю папіросай.

Тая аўтаматычна ўзяла яе ў зубы. Услужлівы кавалер, з усьмешкай паглядаючы на мяне, быццам хацеў сказаць: „вось і твой гыпнотызм“,— дастаў серчыка і даў ёй запаліць.

Ледзь яна запаліла і ўцягнула першы дым, калі пачне кашляць, і кінула папіроску на зямлю.

— Ух, сьмярдзючка якая!—казала яна. Што гэта за папіроска, скуль панок узяў яе? Проста гной нейкі.

Тады прысутныя зразумелі, што гэта ня жарты.

Расказалі і Марысі, ў чым туткі справа і чаму гэтак сьмярдзіць ёй папіроска, але яна не хацела верыць. Дастала з торбачкі сваю папіроску, закурыла і эфэкт атрымаўся той самы.

Папіроскі мелі для яе вельмі паскудны пах і смак, і не магла курыць.

Тады пераканалася і яна. Праз пяць дзён кінула зусім курыць і ня курыла цэлых пяць месяцаў. Праз гэты час паправілася, паздаравела. Праз пяць месяцаў, для жартаў закурыла і папіросы ўжо не сьмярдзелі ёй, магла курыць. Спужалася яна гэтага і прыбегла да мяне, каб ратаваў. Я загыпнотызаваў яе зноў — і з таго часу кінула курыць зусім і ня курыць дагэтуль, а мінула ўжо ад таго часу гадоў з дваццаць.

Меў я з прычыны гэтага гыпнотызму трошкі клопатаў з Марысяй. Забаліць ёй галава, забаліць зубы—прыбягае да мяне просіць: загыпнотызуй, зрабі, каб не балела. Я спачатку ўсыпляў яе, наказваў падчас сну, каб боль уступіў, і памагала. А пасьля проста, ня ўсыпляючы яе, даткнуся рукою да галавы і кажу: зараз перастане балець і сапраўды пераставала.

Пасьля гэтага сэансу з Марысяй у гуртку маіх знаёмых вестка аб маім уменьні гыпнотызаваць разышлася далёка. Усё часьцей прасілі мяне аб гыпнотызьме. І калі ўбачылі, што для жартаў я не гыпнотызую, прасілі гыпнотызаваць для якой-небудзь патрэбы свае. І якіх толькі патрэб ня бывае ў людзей! Адзін з таварышоў маіх пра-

Камуністыя гэта каста людзей, якім усё можна, якія маюць большыя правы і прывілеі, чымся даўная царская бюракратыя, якія за тое адмаўляюць усялякага права ў грамадзкім і палітычным жыцьці мільёнам, нязгодных з камунізмам. Усіх. хто не згаджаецца з панаваньнем камуністычнага тэрору ў С. С. С. Р. аб'яўляюць без усялякіх правоў, выключаюць „з-пад права“, як некалі нявольнікаў.

Камуністыя скасавалі ўсе падставы радыкалізму, як роўнасьць перад правам, агульнае і тайнае галасаваньне, парлямэнтарныя ўрады, суды прысяжных, права да абароны і г. д. У выніку ўсяго гэтага пад панаваньнем камунізму грамадзяне жывуць у палітычнай няволі, далёкія ад дэмакратыі і радыкалізму.

Але ня ўсе яшчэ разумеюць гэта. І толькі дзеля гэтага неразуменьня мог зьявіцца ў часопісі „Голас Працы“ № 6 з 1 траўня, артыкул пад загалоўкам: „Фразы і запраўднае аблічча сельсаюзьнікаў і хадэкаў“. У гэтым артыкуле, нашыя „радыкалы“ з Віленскае вуліцы, выяўляюць свой пагляд на парлямэнт і на соймавае прадстаўніцтва. Паводле „Голасу Працы“ сойм гэта „інстытуцыя, якую вытварыла буржуазія і якая служыць пераважна інтарэсам буржуазіі. Выбары, нават з пяціхвосткамі, ўрэшце-рэшт даюць перавагу ўсё-ж ёй. Мы ня маем прыкладаў працоўных парлямэнтаў. Тады сойм ёсьць па істоце буржуазная інстытуцыя, а як такая—ёсьць такой самай прыладай буржуазіі для панаваньня над працоўнымі, як і ўсялякая іншая яе „законная“ інстытуцыя“.

Гэтак асудзіўшы сойм, нашыя „ура-соцыялістыя“ з Віленскай вул. паясьняюць, што „быў час, калі нават павадыры працоўных думалі зрабіць сойм сваёю інстытуцыяй, паступова „завяваўшы яе“. Але з бегам часу гэткая думка працоўнымі пакінута“.

І далей аўтор артыкулу „радыкальнае“ часопісі называе сойм „недарэчнасьцю“, выясьняе, што ад сойму беларусы нічога добрага спадзявацца ня могуць, што ня варта верыць у парлямэнтарызм, нельга бараніць парлямэнту (сойму) і сьцьвярджае, што выбраныя ў сойм паслы нічога для народу ня зробяць. Яны могуць толькі гаварыць у сойме „ў абліччы хмары буржуазных прадстаўнікоў і іх падгалоскаў праўду, зьвернеяую да працоўных гушчаў“.

З гэтых слоў „Голасу Працы“, органу пасольскага клюбу „Змаганьне за інтарэсы сялян і работнікаў“, які на старонках гэтае часопісі падае свае камунікаты, відаць, што паслы гэтага клюбу толькі што ўвайшоўшы ў сойм і атрымаўшы пасольскі іммунітэт, дыеты і званьне народнага прадстаўніка, пасла, які карыстаецца прывілеямі, ня вераць у якую-колечы карысьць для сялян, сваіх выбаршчыкаў ад працы іх у сойме. Выбраныя ў сойм паслы „Змаганьня“ выразна кажуць сваім выбаршчыкам, што ў сойме бууць займацца адно гутаркай, што ня вераць у карысьць соймавае працы і што там у сойме нічога ня зробяць. Прынамся яена і слушна кажуць. Апрача таго, з гэтае заявы „Голасу Працы“ могуць відзець выбаршчыкі, аддаўшыя галасы на сьпісак № 39 у Наваградчыне, што яны зрабілі глупства, аказаліся абмануты́мі, бо выбіраючы паслоў верылі ў карысьць сойму і карысьць працы тых, каго выбіралі.

Цікава, чаму паслы „Змаганьня“ не казалі аб гэтым перад выбарамі, дзеля чаго кідалі сваю грамадзкую працу і фаховую работу — вучыцялёў у беларускіх гімназіях, калі ня вераць у сойм, гэтую „буржуазную“ інстытуцыю, якая, як кажуць утворана буржуазіяй для панаваньня над працоўнымі. Мо' аб гэтым толькі цяпер даведаліся? А калі гэтак, дык астаецца адзіны выхад: зрачыся мандатаў і не марнаваць часу ў сойме без

---

сіў, каб наказаць яму пазбыцца каханьня дзяўчыны, якая не хацела глянуць на яго, іншы зноў прасіў, каб наказаць яму прывязанасьць да некай багатай дзеўкі, якую сваталі яму, але якая вельмі яму не падабалася. Ведама гэткія просьбы я ня лічыў магчымым здаваляць. Але часта, вельмі часта і з запраўднай патрэбай прыходзілі да мяне. Было ў мяне двох таварышоў, здольных хлопцаў, рыхтаваліся яны тады да дзяржаўнага экзамену ў унівэрсытэце. А туткі падышла вясна, цёплая, прыгожая. Разгультаіліся мае хлопцы так, так зьбіліся з панталыку, што проста ані ня могуць забрацца да працы, адкладаючы яе з дня на дзень.

Прыходзяць да мяне і просяць: ратуй, змусь нас, каб вучыліся!

Загыпнотызаваў іх, паслухаў. Наказаў, каб пакуль не здадуць экзаменаў, спынілі гульні і сядзелі за кніжкамі. Гыпнотызм памог. Трэба было іх амаль гвалтам адцягаць ад кніжак і экзамены здалі з ад'знакай.

Зьярталіся да мяне вельмі часта памагчы гыпнотызмам і ў іншых справах. Так, напрыклад адна паненачка, зьбіраючыся на вечарынку, прасіла наказаць ёй, каб яна мела добры гумар, каб было ёй тамака весела. Я здаволіў яе просьбу і сапраўды адразу зрабілася яна некай вясёлай, гаварлівай. Мяне няраз вельмі цікавіла пытаньне, ці можна наказаць чалавеку, каб ён зрабіў тое, чаго зрабіць ня хоча, альбо тое, чаго ў звычайным стане ён не зрабіў-бы ніколі. І пераканаўся, што гэткія рэчы наказаць можна. Спробу гэткую я зрабіў з тэй самай паненкай, якой наказаў добры гумар на вечарыне. Усыпіўшы яе, я наказаў ёй, каб яна праз пяць дзён, у назначаны час, у той час, калі я ведаў, што яна занята, прыйшла да мяне і прынясла пісьмо ад сябе. У гэтым пісьме яна павінна была прасіць, каб я прыйшоў да яе на гарбату. І, ведаеце, ў назначаны дзень і час яна прыйшла да мяне. Знаёмы з ёй я быў вельмі мала. Можаце зразумець, як дрэнна чула яна сябе, адарваўшыся ад працы (яна была бугальтэркай у банку) толькі для таго, каб выпаўніць наказ і прыйсьці да чалавека мала знаёмага і ў якой справе? каб аддаць яму пісьмо, пісанае ад сябе. Відаць было з усяго, што яна вельмі мардавалася, вышуквала некія прычыны, каб растлумачыць мне мэту свайго прыходу і ўрэшце аддала пісьмо. Зьмест яго быў такі, як я загадаў. Тады я наказаў ёй прачнуцца. Яна нічагусенькі не памятавала, як папала да мяне, як выйшла з банку і калі я ёй паказаў яе пісьмо — проста засаромілася. Можа-б і разгневалася на мяне, але не магла, бо гэтую спробу я зрабіў на яе просьбу. Вельмі цікаўна, што карыстаючыся гыпнотызмам мне ўдавалася адвучыць людзей ад гарэлкі. Але аб гэтым раскажу іншы раз.

*Д. П.*

карысьці для народу. Але ў гэта, каб зрабілі яны так, як пішуць, мы ня верым.

Паслы „Змаганьня“ ніякае карысьці народу не прынясуць, бо адразу прысталі да ціхае суполкі з яўнымі і тайнымі камуністымі, якія ўжо ад 1918 г. змагаюцца з соймам, абраным тайным галасаваньнем, калі 5 студня 1918 г. разагналі расейскую канстытуанту. Камуністыя вераць у Сойм, але зложаны з адных камуністых.

Гэтыя іх савет ня мае ніякага значэньня, бо аб усём пастанаўляе Цэнтральны Камітэт Партыі.

І разважаньні „Голасу Працы“ вельмі падобныя да ўсягo таго, што камуністыя пісалі і пішуць аб парлямэнтах. Гэтак яны пачалі пісаць аб парлямэнце толькі ад 1917 г., калі прышлі да ўлады і баяліся, каб парлямэнт яе ад іх не адабраў.

Аднак так думаючы аб парлямэнце, камуністыя ідуць у сойм, дзе, праўда, з высокае установы хочуць зрабіць карчму, каб перашкодзіць у працы сойму.

Дык прычым тут радыкалізм? А „Голас Працы“ хоча лічыцца органам беларускага радыкалізму. Цытаваны артыкул „Голасу Працы“, як і ўся гэтая часопісь, мае толькі супольнага з радыкалізмам, колькі ёсьць супольнага паміж князем Радзівілам, ці Юсупавым, а безработным і безьзямельным селянінам. Лепш было-б, каб рэдакцыя „Голасу Працы“ даведалася, што азначаюць пэўныя словы і замест „радыкальная“ прэса, ўжывала больш адпаведнага слова „лёкайная прэса“ савецкага фасону. Бо ўжо даўно радыкалізм ня мае доступу на Віленскай вул.,

---

# Сельска-гаспадарчы аддзел.

## З якіх рэчаў складаецца расьліна і чаго яна патрабуе дзеля свайго росту і ўраджаю.

Сельска-гаспадарчыя расьліны, якія апрацоўваюцца ў полі, як і ўсе іншыя зялёныя расьліны, у час свайго жыцьця, атрымоўваюць ежы для сябе часткай з зямлі-грунту, на якім яны растуць, а частку з паветра. Значыцца, калі зямля-грунт, дзе растуць расьліны, мае ня ўсё тое, што складае ежу для расьліны, дык гэта расьліна на гэткім грунце разьвіваецца вельмі кепска. Каб даведацца, якія патрэбныя для ежы рэчы расьліна бярэ з грунту, дык нам трэба абярнуць усю вырасшую расьліну, г. зн. лісткі, сьцябло і карэньні нашай сельска-гаспадарчай расьліны ў попел, які ёсьць ня што іншае, як зямлістая маса.

А дзеля гэтага, як вядома, трэба спаліць расьліну так, каб ад яе атрымалася ня вугальле, а толькі чысты попел. Пры гарэньні расьліны атрымоўваецца яшчэ, апрача попелу, дым, які складаецца з тых, што знаходзяцца ў гэтай расьліне: пары, вады і іншых рэчаў, атрыманых расьлінай ці з зямлі-грунту, ці з паветра. А попел зьяўляецца тою часткай згарэўшай расьліны, якая ўзята гэтай расьлінай з зямлі-грунту; ён атрыманы расьлінай не з перагною зямлі-грунту, а з тых частак грунту, што тварыліся з пяску і гліны, а дзеля гэтага і сам попел называецца мінэральнай часткай згарэўшай расьліны. Пры гарэньні расьліны, попел, як мінэральная частка яе, не згарэў, а звольніўся ад іншых складных частак расьліны і паказвае нам тое, што расьліна ўзята ад зямлі-грунту ў час яе жыцьця і росту. Калі мы разгледзім гэты попел, дык даведаемся, што перайшло з зямлі-грунту ў расьліну ў час яе жыцьця. Гэтыя перакананьні, з чаго складаецца попел, былі зроблены шмат разоў вучонымі і імі высьветлена, што ў склад попелу заўсёды ўваходзяць: жалеза, магнэзія, вапна, паташ (калі), фосфарная кіслата і іншыя рэчы. Калі гэтыя рэчы заўсёды ўваходзяць у склад попелу, а попел — гэта ні што іншае, як мінэральная і заўсёдная частка кожнае расьліны, дык, значыцца, кожнай расьліне гэтыя рэчы зьяўлюцца неабходнымі; бяз гэтых рэчаў зусім ня можа расьці ніякая расьліна.

І запраўды гэта так: усе рэчы, якія ўваходзяць у склад попелу — жалеза, магнэзія, вапна, паташ (калі), фосфарная кіслата і іншыя, як паказалі вучоныя дасьледчаньні, гэтак неабходны расьліне, што нават без аднаго з іх кожная расьліна ня можа жыць, расьці і даваць ураджай. Калі ў грунце ня оудзе аднае якой-колечы з гэтых рэчаў, дык расьліна зусім ня будзе расьці на гэткім грунце; калі гэтай рэчы ў зямлі-грунце няшмат, дык расьліна сваімі карэньнямі забярэ яе зусім і скарыстае дзеля свайго росту ўвесь яе запас, а далей пачне вянуць і ў хуткім часе замрэ, калі карэньні гэтай расьліны не знайдуць у зямлі-грунце больш гэткай патрэбнай рэчы, неабходнай для ежы расьліны.

Гэткім чынам для правідловага і добрага росту расьліны неабходна, каб зямля-грунт мела колькі трэба ўсіх тых рэчаў, якія знаходзяцца ў попеле расьліны і без каторых расьліны ня могуць жыць і ўміраюць. Калі зьвернемся да складу нашых земляў-грунтаў, дык пабачым, што ў іх заўсёды ёсьць колькі трэба жалеза, магнэзіі, нават вапны, а паташу (калія) і фосфарнай кіслаты бывае не заўсёды ў дастатку.

Прычына гэтага недахопу ў тым, што нашыя сяляне на сваіх грунтох сеюць адны і тыя самыя расьліны кожны год. Ураджаямі гэтых расьлінаў выбіраюцца з зямлі-грунту і паташ (калі), і фосфарная кіслата і іншыя патрэбныя для ежы расьліны рэчы (азот), а калі гэтыя рэчы і зьвяртаюцца таму самаму грунту ў постаці ўгнаеньня, дык значна ў меншай колькасьці, чымся гэта патрэбна для добрага росту і большага ўраджаю гэтых расьлін.

Значыцца, кожны год і з кожным ураджаем нашыя грунты робяцца ўсё бяднейшымі і бяднейшымі; у іх мінэральных, спажыўных для расьліны рэчаў — калію, фосфарнай кіслаты і часткаю вапны, якія ўваходзяць у склад попелу расьліны, становіцца ўсё менш, а дзеля гэтага і рост, і ўраджай пасеяных намі расьлін на гэткіх грунтох становіцца з кожным годам усе горшы і меншы.

Апрача мінэральных рэчаў попелу, аб якіх

мы ўжо гутарылі вышэй, ураджаі кожнага году ўносяць яшчэ адну рэч, важную для расьліны, гэта рэч называецца „азотам“. З гэтай рэчай мы заўсёды маем справу ў хатнім жыцьці, калі ўжываем дзеля чаго-небудзь салетру.

Азот заўсёды знаходзіцца ў складзе расьліны, але толькі ў іншай постаці, а ня ў постаці салетры. Калі мы спалім расьліну, дык яна абернецца, галоўным чынам, у дым, і толькі часткаю ў попел.

І вось, калі-б мы сабралі дым, атрыманы пры згараньні расьліны, і пастараліся даведацца, з чаго складаецца гэты дым, дык дайшлі-б да пераконаньня, колькі было ў нашай расьліне азоту. А дзеля таго, што зялёная расьліна можа атрымоўваць азот пры дапамозе карэньняў з зямлі, дык у грунце павінен быць і запраўды ёсьць азот.

Гэты азот знаходзіцца, галоўным чынам, у той часьці грунту, якая завецца „перагноем“. Ад гніеньня розных рэчаў (лістоў, гною і г. д.) у грунце атрымоўваецца азот; ён паступова ў гвунце абяртаецца ў салетру і ўжо ў постаці салетры можа быць прыняты карэньнямі расьлін.

Азот для росту расьлін і іх ураджаю так сама зьяўляецца неабходным, як і тыя рэчы попелу расьліны (калі, фосфарная кіслата, вапна), аб якіх мы ўжо ўспаміналі вышэй. Калі-ж азоту мала ў зямлі-грунце ў постаці салетры, ці яго зусім няма, дык рост пасеяных расьлін будзе вельмі слабы, а ўраджай гэтых расьлін таксама атрымаецца дужа малы і кепскі, а нават і зусім яго можа ня быць. Расьліна, пасеяная на гэткім грунце, магчыма што і ўзайдзе, але з часам зусім замрэ, як памірала яна ад недастачы ў грунце мінэральных рэчаў, якія ўваходзяць у склад попелу, а якраз: паташу (калію), фосфарнай кіслаты і вапны.

Гэткім чынам, з усяго сказанага ясна, што пасеяныя расьліны дзеля свайго добрага росту і ўраджаю патрабуюць патрэбных для ежы рэчаў: фосфарнай кіслаты, паташу (калію), вапны і азоту. З гэтых рэчаў першыя тры належаць да мінэральных рэчаў зямлі-грунту і гэткімі астаюцца ў расьліне, перарабляючыся ў попел, пры яе згараньні, а азот, належачы да перагнойнай часьці зямлі-грунту, паступова перарабляецца ў салетру і ў гэткай постаці прыймаецца карэньнямі расьлін, а пры згараньні расьліны азот перарабляецца ў дым.

Цяпер ужо нам вядома, чаго патрабуе пасеяная расьліна дзеля свайго росту і ўраджаю і мы лёгка можам даведацца ўжо і аб тым, што павінна быць у грунце і чым яго ўдабраць (угнойваць), каб на ім добра і раскошна расьлі пасеяныя расьліны і каб атрымаць добры ўраджай.

*S.*

---

## Штучныя гнаі.

### Фосфарнакіслыя угнаеньні.

### В. Супэрфосфат — ($P_2 O_5$).

Некаторыя каменьні, якія называюцца фосфарытамі, маюць у сабе фосфарнакіслую вапну ад 25% да 35%, якая гэтак сама заўсёды ёсьць і ў розных касьцях. Сырыя фосфарыты абрабляюцца сернаю кіслатою, ад чаго выходзіць гэтак званая аднаасноўная фосфарнакіслая вапна, якая вельмі лёгка распускаецца ў вадзе, а разам вельмі пажыўная для расьлін.

Гэная вапна, злучыўшыся з сернаю кіслатою, выдае сернакіслую вапну, альбо адно і тое самае, што гіпс. Гэткім чынам супэрфосфаты яўляюць сабою помесь 10%—21% аднаасноўнай фосфарнакіслай вапны з гіпсам. Далей, калі хочуць атрымаць высокапробныя супэрфосфаты, то абрабляюць ужо ня сернаю, а фосфарнаю кіслатою і тады выходзяць гэтак званыя падвойныя і патройныя супэрфосфаты бяз гіпсу, і маюць у сабе ад 38% да 42% фосфарнай кіслаты; але гэная фосфарная кіслата не распускаецца ў вадзе, і каб перавясьці яе ў пажыўны стан для расьлін, дык фосфарную кіслату ізноў абрабляюць саляною кіслатою, затым асаджваюць росчыну вапнавым малаком і атрымліваюць „прэціпітат“ (асаджаны фосфат), які разжыжваюць цытрынавапільным аміякам і тады расьліны ўжо могуць карыстаць з гэных высокапрацэнтных супэрфосфатаў.

Трэба зазначыць, што фосфарнакіслая вапна надта патрэбна як для ўсялякіх расьлін, так і для разьвіцьця касьцей усялякіх жывёлаў, гэта даказвае той факт, што калі яе забракуе ў касьцях, то жывёлы і людзі хварэюць на гэтак званы „рахітызм“ (мягкасьць і скрыўленьне касьцей), а збожжа дае зморшчаныя і няпоўныя зярняты.

Супэрфосфат — гэта парашок бела-шэрага або нават шэрага колеру з характарным вострым пахам, які ў сярэднім мае ў сабе 16% фосфарнакіслага квасу, распушчальнага ў вадзе. Супэрфосфат памагае хутчэйшаму дасьпяваньню расьлін, пераходу крахмалу ў цукер, дае саломе магутнасьць і адпорнасьць на выляганьне, але надаецца толькі на грунтох добрай старой культуры *і на больш-менш сухіх. На зусім пясчаных і асабліва на грунтох кіслых, тарфяністых супэрфосфату зусім ня трэба даваць*, бо ён там, будучы сам кіслым, яшчэ можа зашкодзіць*).

Даюць яго ад 200 да 400 кілёгр. (12—24 пуд.) на гэктар, пры гэтым можна ўжываць як павярхоўнае ўгнаеньне па азімах, а лепш за ўсё—пад яравыя, асабліва авёс, вясною зараз-жа перад пасевам. Ён добра надаецца пры культуры буракоў. Супэрфосфат лёгка зьлежваецца, а падмочаны ў мяшках ужо мала варты. Надта добра перасыпаць супэрфосфатам гной яшчэ ў хляве, або на месцы перахаваньня хлеўнага гною, дзеля таго, што фосфарныя солі тады пераходзяць у больш распушчальны і пажыўнейшы стан.

Высяваючы супэрфосфат, ніколі *ня можна мяшаць з тамасынаю, азатняком, вапнаю і салетраю нарвэскаю або харжоўскаю*; з салетраю чылійскаю можна ў дзень перад пасевам, з паташовымі солямі і кайнітам заўсёды можна зьмешваць перад пасевам.

Супэрфосфат на сярэдніх землях дзейнічае год-два, а часамі нават патроху сказваецца яго сіла і на трэці-чацьвёрты год.

Сырыя фосфарыты спатыкаюцца па ўсім сьвеце. Больш за ўсё вядомыя і лічацца найлепшымі *алжырскія*, якія маюць 27%—30% фосфарн. квасу, бэльгійскія крэйдавыя фосфарыты з 26%—27%, францускія—з 33%—35%, расейскія (смаленскія і курскія) з 25%—30% і на Украіне

*) Трэба ўнікаць угнаеньня супэрфосфатамі там, дзе грунт сьвежа вапнавалі, бо можа зашкодзіць расьлінам.

(Ў Польшчы) — Падольскія з левага берагу ракі Днестру і ў ваколіцах Тамашова-Равы — фосфарыты з 25%—35%.

**Касьцяная мука або касьцяны супэрфосфат** — гэта патоўчаныя косьці, абрабляныя сернаю кіслатою і змолатыя, як і супэрфосфат, ад чаго выходзіць шэры парашок з едкім пахам, які ў сярэднім мае да 30% фосфарнага квасу, ад 0,5% да 0,8% азоту і трохі паташу (калію).

Касьцяную муку ўсё роўна, як і попел з печы, лепш уносіць у грунт з восені, альбо яшчэ лепш перасыпаць ёю хлеўны гной.

Касьцяную муку або касьцяны супэрфосфат можна прыгатовіць і хатнім спосабам, дзеля чаго бяруць, напрыклад, 10 пуд. растоўчаных касьцей, 2 пуды сьвежагашанай вапны і 12 пуд. попелу з печы—і ўсё гэта, палажыўшы ў бочку, абліваюць 15—25 вёдрамі вады; праз 2—3 тыдні, косьці пачынаюць размакаць і перамешваюцца; яшчэ праз тыдняў тры косьці зусім робяцца мягкімі, так што можна патаўчы якім дзеравяным таўкачом. Зьмяшаўшы іх з зямлёю, можна рассыпаць па полі. Прыгатаваньне гэткім чынам угнаеньне вельмі надаецца для ўдабрэньня садоў і ягадных кустоў, дзеля таго, што косьці, апрача фосфару, маюць азот, які пераходзіць у салетру, і адзін пуд касьцей дае да 10 фунтаў фосфару і 1—1½ фун. азоту.

Косьці можна і перапальваць на агні, але тады ў гэтакім парашку прападае азот.

Калі косьці абяжжырыць (ачысьціць ад клустасьці) пры помачы гарачай пары або бэнзыну, то гэткае ўгнаеньне павышае зьмест азоту ад 4,8% да 5,3%, і ад 20% да 22% фосфарнага квасу. У процівагу супэрфосфату мінэральнаму касьцяная мука або касьцяны супэрфосфат надта добра дзейнічае на *грунтох беліцаватых, пясчаных*, а гэтак сама і на *кіслых тарфяністых грунтох*, наагул на землях, якія мала маюць вапны. Перапаленыя косьці даюць касьцяны вугаль, які знаходзіць сабе шырокае датарнаваньне на цукерных заводах, пры ачыстцы цукру, а пасьля касьцяным вуглём, як адпадкамі, карыстаюцца, заместа фосфарнакіслага ўгнаеньня.

*Я. Х.*

---

# ПЧАЛЯРСТВА.

## Работы на пасецы ў красавіку і ў траўні.

(Гл. № 17 „Б. Д.“).

Мёд на корм бяром найчысьцейшы і найздаравейшы, які яшчэ ня мог скіснуць. Гэты мёд не павінен паходзіць з чужое пасекі, дзеля таго што з ім разам на нашу пасеку можа дастацца якая-небудзь пчаліная хвароба, прыкладам гнілец. Лепшы за чысты мёд да корму ёсьць мёд, зьмяшаны з пяргою. Як нам ня хопіць мёду на корм, дык тады можна пчолы карміць сытою, якая паўстаець, калі мы распусьцім у кіпучай вадзе адзін кілёграм цукру на адзін літр вады; найпажыўнейшы-ж у гэтым выпадку корм будзе тады, калі да гэтае сыты дадаць яшчэ якую-небудзь пятую частку мёду. Цукар на сыту павінен брацца якнайчысьцейшы. У ваколіцы беднай вясною ўзяткам пяргі, да сыты карысна яшчэ дадаць пяргі, захаванага ў нас з лешашняга году. Сыту даём да вульля ў кармушках і зьнізу—пад рамкі. Даваньне пад рамкі яшчэ карыснае дзеля таго, што гэтым сьцягаем пчолак зьверху рамак (звычайна яны там увесь час прабываюць, пакідаючы ніжнюю частку не абагрэтаю). У даным выпадку і ніжняя частка вульля будзе абагрэтая, а матка з свайго боку пастараецца яе зачарвіць. Кармушкі павінны быць дзеравяныя і за кожным разам добра вымытыя. Бляшаныя кармушкі не надаюцца да падкормліваньня дзеля таго, што ў іх надта хутка стынець сыта. Зьверху па сыце трэба пакласьці гусьценька чыстае саломкі, а гэта дзеля таго, каб пчолкі, бяручы рэдкую сыту, не патапіліся. На кожны раз трэба ужываць саломку сьвежую, бо ў даўнейшай могуць вытварыцца шкадлівыя для пчолак квасы.

Апрача падкармліваньня мёдам і сытою, можна яшчэ карміць пчолы і бялкамі, якія найболей надаюцца тады, калі чарвячкі абернуцца ў гусеніцы; бо да разьвіцьця іх арганізму найболей патрэбны бялкі. Бялковы корм знаходзіцца ў тым малачку, якім пчолы кормяць гусеніцу. Малачко гэтае яны робяць з пяргі, мёду і трошачкі вады, яно мае ў сабе 50% *алюмінозы*. Алюміноза знаходзіцца ў пылку з красак, у муцэ і яйках. Мука ёсьць труднейшая да травеньня, як пярга, альбо яйкі з мёдам.

Да дрэваў, з якіх пчолкі зьбіраюць пылок, належаць: ляшчына, вярба, асабліва іва, вяз, тополь белы і звычайны, асіна, клён, явар і ўсе садавіны, з расьлінаў найболей пылку даець рапак. Дзе ў якой аколіцы гэтых дрэваў ёсьць мала, то тады трэба забясьпечыць пчолы, даючы ім мёду з яйкамі. Гэты корм пабуджае матку да чарвеньня і запэўняець ім ежу для гусеніцы. Корм гэты робіцца гэткім чынам. На кожныя дзесяць вульлёў бяром пяць сьвежых курыных яек, разьбіваем іх да чыстае гліняная паліванае пасудзіны, дадаём да іх адзін фунт трошка падагрэтага мёду і бьём гэту мешаніну датуль, пакуль мёд з яйком добра не зьмяшаецца і корм гатовы. Разліваем яго цяпер у кармушкі і ўстаўляем на ноч пчолам. Падкормліваньне гэта паўтараем, што другі вечар, павялічваючы за кожным разам даўку так, што за чацьвёртым разам даём на дзесяць вульлёў дзесяць яек і два фунты мёду, за сёмым дваццаць яек і чатыры фунты мёду. За кожным разам робім корм сьвежы, бо даўнейшы можа сапсавацца. У выпадку, калі на бялковы корм няма мёду, можна зрабіць яго з малака і цукру, бяручы на адзін кілеграм найчысьцейшага цукру два кілеграмы кіпучага сьвежага малака. Корм гэты даём так сама што другі вечар. Спачатку бяром гэтага корму ¼ шклянкі на пень і паступова павялічваем да аднэй шклянкі. Пры варэньні гэтата корму, дадаём трошачкі да яго саліцылавае кіслаты.

*Вада*. Дзеля таго, каб рабіць маладому пакаленьню малачко, пчолы мусяць мець шмат вады. Толькі ў часе мёдабраньня пчолы ня носяць вады ў вульлей, дзеля таго, што тады шмат яе ёсьць у нэктары, які пчолы зносяць да вульля. А вясною, калі яшчэ ў ваколіцы мала красак, нават і ў халодную пару пчолы бяруць ваду і тады асабліва шмат іх гіне.

Корм для чарвы складаецца з васьмёхдзесяцёх частак вады, ад 10 до 11-цёх частак бялку, ад 1,7 да 2,7 частак клустасьці і ад 2 да 4 частак цукраў. З гэтага відаць, як шмат вады патрабуець чарва; а дзеля гэтага якую-ж цяжкую працу мусяць выпаўняць пчолы, калі пчаляр не паможа; ў дадатку яшчэ надта шмат пчол гіне

падчас браньня вады, асабліва ў сакавіку месяцы, калі яшчэ на дварэ бываець холадна, ад гэтага-ж паменшваецца і аслабляецца вулей. Ад гэтага надта лёгка забясьпечыць і абараніць пчолак, паставіўшы ім на пасяцы пойла і прыносячы туды штодзенна крыху вады. Пчолкі любяць браць цёплую ваду, якая аграваець іх арганізм, а пры браньні сьцюдзёнае вады яны мерзнуць і ні адна з іх можа нават памёрці; лёгка гэта ўгледзець, што пчолы любяць браць цёплую ваду, асабліва тады, калі ў пачатку вясны, пчолы надта ахвотна бяруць ваду ў лужынах і равох, там, дзе яна ад першых праменьняў сонца награэецца.

Ваду можам даваць у вульлі, альбо проста ў сыце, альбо ў пойле, нагрэўшы яе і ўмясьціўшы ў цёплым спакойным месцы дзе-небудзь у поблізу пасекі, так, каб да яе ня мелі доступу дзеці, жывёліны, качкі і г. д. і каб на пойла праз цэлы дзень сьвяціла сонца, аграваючы ваду.

Рознага харалтару бываюць пойлы як: пойла з трубкі з сіткам, пойла з зробленага адумысна цымэнтавага цэбра, які па напаўненьні яго вадою, зьверху прыкрываецца мохам, на які потым садзяцца пчолы і смокчуць ваду, пойла са скрынкі 1 г. д.; мы-ж на сваёй пасецы рабілі пойла гэтак: бралі дзеравянны чысты кадаўб, у якім у дне была пракручана малюсенькая дзірачка, заткнутая (разумеецца ня туга) чысьценькаю ваткаю. У кадаўб гэты налівалі вады і ставілі на дзеравянным століку. Праз дзірачку вада сачылася на столік, тут яшчэ ляпей награвалася сонцам, адкуль яе забіралі ўжо пчолкі. Каб пчолы ня лезьлі зьверху ў кадаўб, трэба яго накрыць.

Вада для пчолак павінна быць дажджавая, альбо ўзятая з рэчкі. Вада са студні не надаецца, дзеля таго, што мае ў сабе шмат мінэральных частак. Калі мы часамі і змушаны браць ваду са студні, дык заўсёды наўперад яе трэба пераварыць. Апрача гэтага ваду трэба даваць сьвежую, чыстую, цёплую і трошкі *надсоленую*. Найлепей пчолы бяруць тую ваду, якая на адзін літар маець адзін грам солі. Каб пчолы ляцелі на сьвежа пастаўленае пойла, можна іх прывабіць мёдам, палажыўшы маленькую грудку разам з вузою каля пойла. Пачынаем даваць ваду ў дзень першага аблёту, бо калі мы спознімся, то пчолы пачнуць яе браць скульсьці, а прывыкшы да таго месца, не захочуць браць з нашага пойла. Даваць ваду трэба кожнаю раніцаю.

Запэўніўшы гэтакім чынам пчолам дастатак цяпла, корму і вады, мы павінны яшчэ рупіцца і аб тым, каб даць матцы болей месца да чарвеньня. Робіцца гэта праз расшырэньне гнязда. Дзеля гэтай мэты заглядаем да гнязда ў пачатку траўня (да траўня матцы яшчэ хопіць старых зімовых рамак да чарвеньня), і глядзімо, якая апошняя рамка зачэрвена. З мэтаю пашырэньня гнязда, побач гэтае рамкі ўстаўляем адну, ці дзьве парожнія з пчалінымі, а ня трутнёвымі чарачкамі, рамкі. Найахватней чарвіць матка ў тых чарачках, з якіх ужо выводзіліся пчолы.

Даючы пчолам пустыя рамкі, маем яшчэ і тую карысьць, што памагаем множыцца чарве, пры вывадзе-ж чарвы і пры яе кармленьні пчолы робяцца болей працавітыя ,і ня маюць так вялікае ахвоты раіцца; ў дадатку-ж гэтым мы рэгулюем вывад самых толькі рабочых пчолак, а ня трутняў.

Ніколі пустое рамкі не ўстаўляем паміж рамак зачэрвеных ужо, дзеля таго, што тады можам застудзіць чарву. Трэба ведаць, што пчолы ў красавіку і траўні найболей заняты вывадам дзеткі, а дзеля гэтага патрабуюць перш за ўсё спакою, так што ў гэтым часе пчаляр павінен якнайменей турбаваць вулей, лазячы ў гняздо.

Скажу яшчэ пры гэтым, што ў тым часе стараймася зьнішчожыць пчаліных паразытаў, як: вошы і матыліца, ўсяляк душачы іх.

Слабыя вульлі (іх можна пазнаць па параскіданаі у розных месцах чарве) злучаем з вульлямі другімі. Тыя слабыя вульлі, ў якіх чарва находзіцца цесна пры сабе ў кожнай чарачцы, можам ўратаваць, дадаўшы пчолак з другога вульля. Гэтым спосабам мы даходзім да выраўнаньня сілы пнёў і стараемся пабольшыць іх семьі аж да таго часу, пакуль пчолы не пакажуць ахвоты раіцца, г. зн. да часу багатага медабраньня, па тым трэба старацца, калі мы ня маем замеру, каб пчолы раіліся, адвясьці пчолы ад раеньня рознымі спосабамі, паміж іншым я гэтыя спосабы перашкодаў раеньню апісаў калісьці ў „Беларускім Дні"; цяпер тут адно паўтару агульна, што робіцца гэта: пашырэньнем гнязда, адбіраньнем запасных матак, агранічэньнем маткі ў чарвеньні, якое рабіцца праз устаўляньне ў гняздо рамак з пяргою, за якія матка ня ідзець чарвіць, гэтак сама можна ўстаўляць і рамку з толькі што ўмацованаю штучнаю вузою; за такую рамку матка гэтак сама не пайдзець чарвіць. У варшаўскіх вульлёх сыстэмы Лявіцкага з гэтаю мэтаю ўстанаўліваюцца ў гняздо адумысныя цынкавыя перагародкі, праз дзірачкі якіх матка баіцца лезьці; трэба аднак-жа ад'значыць, што бляшаная цынковая перагародка ёсьць для пчол ня мілаю і што яна перашкаджаець ім у працы. Аб самым раеньні прыходзіцца сказаць тое, што ахвота да яго паўстаець у пчолак з прычын гэтакіх: 1) з прычыны ўроджанага ў пчолак, як у кожнае іншае жывёліны, інстынкту да размнажэньня і запэўненьня на сабе патомства, 2) прычынаю да раеньня бываець і раса, г. зв. гарачая італьянская альбо краінская; 3) з прычыны вялікага ліку трутняў у вульлі; 4) з прычыны недахопу ў вульлі месца; 5) з прычыны вялікае гарачыні ў вульлі і недахопу сьвежага паветра; 6) з прычыны нястачы для пчолак работы, ці то ад нястачы месца дзеля складаньня мёду, ці то, калі пчолы вытвараным малачком ня маюць каго карміць і 8) частае непакоеньне пчол гэтак сама пабуджаець у іх ахвоту да раеньня.

Азнакі раеньня такія: матка стараецца, чым найболей складаць яечкі ў трутовыя чарачкі, а самыя пчолы-работніцы стараюцца закладаць маточнікі.

*Пчаляр.*

## Што трэба зрабіць, каб пчолы бралі з цьвету чырвонай канюшыны мёд.

Як ведама, пчолы рэдка бяруць з чырвонай канюшыны мядовы сок за тое, што ён у цьвеце гэтай канюшыны знаходзіцца глыбока і пчолы яго ня могуць дастаць. На канюшыне можна бачыць зьбіраючы толькі мёд шчумялёў. Праўда, бываюць гады, хоць і рэдка, што пчолы дастаюць мёд з цьвету чырвонай канюшыны. Здараецца гэта тады, калі пагода дабрадзеіць ня толькі на

ўзрост, а і на паўнейшае выдзяленьне ў цьвяточных венчыках мядовага соку.

Апошнімі гадамі некаторыя нашыя вёскі, перайшоўшыя на хутары, пачалі дзеля падняцьця культурнага ўроўня свае гаспадаркі, засяваць значныя кавалкі зямлі чырвонай канюшынай, каторую можна скарыстаць у дзеле зьбіраньня пчоламі мёду. Трэба зазначыць, што мёд, зьбіраны пчоламі з чырвонай канюшыны, як і з іншых відаў канюшыны, бывае вельмі высокага гатунку. Дык каб даць магчымасьць пчолам даставаць з цьвету гэтай канюшыны мёд, практыкованыя гаспадары-пчаляры робяць вось як: вясной, як толькі канюшына падымецца ад зямлі на цалую пядзю, яе скошваюць (ў траўні ці ў пачатку чэрвеня), пасьля чаго канюшына пачне расьці на больш атожылкаў з драбнейшым цьветам-галоўкамі, з каторых ужо пчолы лёгка будуць даставаць мёд.

Пры разьвядзеньні пчол гэты спосаб скошваньня канюшыны вельмі карысны. Што тычыцца самой канюшыны, дык гэткую канюшыну найлепш будзе высьпельваць на насеньне, бо тут будзе куды больш насеньня, чымся было-б, калі-б ня скошвалі яе, дзякуючы хоць драбнейшаму, але значна большаму лікам цьвету, вырасшаму пасьля скошваньня на атожылках.

*Янка Тарыкаў.*

# Корэспондэнцыі.

## Аб жыцьці нашых сялян.

*(в. Церабостынь, Стаўпецкага пав.).*

У нашай вёсцы сяляне пакуль-што асаблівую ўвагу зварочваюць на тое, каб якнайбольш прыкупіць сабе зямлі. Праўда некаторым удалося купіць трохі зямлі і сенажаці ў князя Мірскага і ў збанкрутаваўшага паўпанка Дрыка, але толькі некаторым. У ліку гэтых сялян ёсьць пераважна, а нават можна сказаць выключна багацейшыя і сярэднія гаспадары, бедным-жа купля зямлі не даступна. Гэтак, напрыклад, была „парцэляцыя“ ў дварох князя Мірскага, дык дзесяціна сенажаці каштавала 300 рублёў золатам, альбо прыблізна каля 1500 злотых польскіх, і бедны селянін ня ў-стане купіць сабе хоць поўдзесяціны. Гэта вельмі блага адбіваецца на супольным сужыцьці сялян, бо на купленую сенажаць ня пушчаюць пасьля пакосу гнаць быдла няўласьнікаў—беднякоў і ад гэтага між апошнімі і ўласьнікамі купленай сенажаці заўсёды істнуе ненавісьць. Агулам узяць, дык у нашай вёсцы пераважаюць гаспадары маючыя 4 — 6 дзесяцін зямлі, безьзямельных амаль-што няма. Што датычыцца ўгнаеньня, дык аб штучных гнаёх нашыя сяляне яшчэ ня ведаюць, а сяляне ўгнойваюць зямлю гноем хлеўным. З гаспадарчых земляробскіх машынаў у нас найболей расшырана сячкарня маючая тры нажы. На сто гаспадароў налічваецца прыблізна каля пятнаццацё сячкарняў. Малатарня ў нашай вёсцы толькі адна. Гэта тлумачыцца тым, што наагул малатарня недаступна для вёскі пакуль-што дзеля таго, што дорага каштуе і па другое, што ў кожнага гаспадара шмат рабочых рук. Узімку і ў позьнюю восень заработкаў саўсім няма, дык сяляне малоцяць збожжа цапамі. Цапамі выгадней малаціць бо можна выбіраць кулявую салому, што пры малатарні зрабіць немагчыма. Аб іншых земляробскіх машынах у нас сяляне мала ведаюць, а хоць і ведаюць то імі не карыстаюцца. Гэта тлумачыцца галоўным чынам вузкапалосіцай.

З заняткаў ня штодзённых можна ўспамянуць аб кашыкарстве. Кашыкарства разьвіваецца ў нашай вёсцы досыць памысна і шпарка, дзеля таго, што маем недалёка шмат лясоў і кустарнікаў. Даўней кашыкарства было для нашых сялян амаль што нязведамае, бо хто ня меў чаго рабіць у вёсцы, выяжджаў у места на заработкі. Цяпеража гэтага няма і моладзь, а з ёю і старэйшыя мужчыны за адсутнасьцю іншай працы займаюцца кашыкарствам. Плятуць кошыкі пераважна ў воз.

Трэба сказаць, што плясьці кошыкі куды выгадней у сэнсе заработку, якісьці на работу ў маёнтак, дзе плацяць за дзень працы ня больш як 1 злот. 50 грошай.

Плата за кошыкі не перавышае $3^1/_2$ злотых за штуку.

Некаторыя старэйшыя сяляне робяць асновы на бараны, але гэтых сялян нажаль у нашай вёсцы ня шмат і іх можна пералічыць на пальцах.

Гэта коратка аб гаспадарчым жыцьці, аб жыцьці-ж духовым я напішу другім разам.

*Сьведамы.*

# Беларусы ў Амэрыцы.

## Сьвяткаваньне 10-х угодкаў абвешчаньня незалежнасьці.

Да нас пішуць з Чыкаго:

„Банкет Беларускага Нацыянальнага Саюзу ў Конгрэс-Отэлі 25 сакавіка 1928 году, зроблены ў 10-я ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларусі, сабраў у Флёрэнтын-Рум, адной з найпрыгажэйшых саляў даун-тауну (цэнтру места), да 200 чалавек гасьцей. Тут былі беларусы, літоўцы, украінцы, латвійцы, карпатарусы, ірляндцы, немцы і шмат інш., аднак пераважалі першыя тры нацыянальнасьці, што прыдало беларускаму сьвяту яшчэ і характар дэмонстрацыі дружбы гістарычна і палітычна найбліжэйшых адзін аднаму народаў на ўсходзе Эўропы.

Ад палавіны 7-ай гадз. увечары госьці ўжо пачалі зьбірацца ў прыгожых салёнах Конгрэс-Отэлю, але толькі ў канцы 7-ае гадзіны адчыніся дзьверы Флёрэнтынскае Салі, ўпусьціўшы туды публіку пад гукі шуманаўскага маршу. За сталамі разьмясьціліся па арганізацыях і нацыянальнасьцях. Кожнаму гасьцю беларускі - гаспадыні падносілі жывыя, белыя рожы...

Прэсу прадстаўлялі рэпрэзэнтанты: „Чыкаго Трыбюн“, „Чыкаго Дэйлі Джорналь“, „Чыкаго Дэйлі Ньюс“, „Наўенос“, „Рассвет“ і інш.

За ганаровым сталом, апрача афіцыяльных асобаў і аратараў, д-р В. Семяновіч. кан. а. Мік. Семяновіч, Б. Пеляховіч, Павал Чопка, Антон Змагар, гр-ка Б. Кальвайтіс, гр-ка Л. Гайзат, гр-ка І. Ульман, а. М. Урбановіч і інш. Над сталом прыгожа разьвешаны два штандары — беларускі і амэрыканскі.

Вячэра адбывалася пад канцэртнае трыо жанчын, кіраванае маладою скрыпачкаю Марусяй Білік, пры ўдзеле віолёнчэлісткі Кэтрын Корк і піяністкі Гэрыэт Сміт.

Пад канец вячэры Язэп Варонка ад імя Беларускага Нацыянальнага Саюзу перадаў старшыняваньне на банкеце прафэсару Я. Тарасэвічу, і гэты малады беларускі прафэсар і поэт дзякуе за выбар, далей кажучы паангельску прамову аб ідэалістычнай аснове нацыянальнага адраджэньня і шляхох да яго беларускага народу. Прамова была гучна прывітана публікаю; музыка выпаўніла амэрыканскі („Стар спэнгэр бэнэр") і беларускі („Адвеку мы спалі") гімны.

Далей прамаўляюць: консуль Літоўскае Рэспублікі А. Кальвайтіс, консуль Латвійскае Рэспублікі І. Ульман, галава Украінскага Грамадзкага Клюбу д-р Сімэнс, ад Карпатарусаў А. Кавальчык, Язэп Варонка (пабеларуску) рэдактар „Науенос" П. Грыгайтіс (палітоўску), атаман „Січаў" Амэрыкі і Канады д-р Грыневецкі (паукраінску) і адвакат Кодзіс (паангельску).

У перарывах паміж прамовамі ідзе концэрт: солё на роялі выконвае талентная піаністка, жонка латвійскага консуля гр-ка І. Ульман, выступаюць артыстыя: П. Савельеў (тэнор) і А. Грышаеў (барытон), вядомая сьпявачка графіня М. Кучкоўская-Сікора (сопрано). У канцы праф. Тарасэвіч дзякуе пп. консулям, ганаровым гасьцём, аратарам, артыстым і чытае прывітальныя тэлеграмы, атрыманыя Бел. Нац. Саюзам. Іх шмат.

Пасьля прачытаньня прывітаньняў на салі зьяўляецца вядомы віолёнчэлісты Францішак Сікора і сустрэнуты громам воплескаў выконвае трудную для віолёнчэлі „Вэнгерскую рапсодыю". Банкет канчаецца а 1-ай гадзіне ўночы.

26 сакавіка амэрыканскія газэты апублікавалі пісьмо падзякі беларусаў гасьцём, наведаўшым банкет, ладжаны імі ў вялікай Заатлянтычнай Рэспубліцы ў гістарычны дзень абвешчаньня поўнай свабоды Беларусі. Пісьмо падпісана праф. Янкай Тарасэвічам, Паўлам Чопкай, Антонам Змагаром і Язэпам Варонкаю, былым Старшынёю П'ршага Беларускага Ураду — Народнага Сэкрэтарыяту 1918 г." *Прысутны.*

## Хроніка.

**Звальненьне сэнатара Рагулі.** 7 траўня г. г. сэнат прыняў пастанову аб спыненьні сьледзтва на час трываньня мандату проціў абранага ў навагрódзкім ваяводзтве сэнатара Рагулі. Гэтая пастанова сэнату была па тэлеграфу перадана ў Віленскі Суд, які 8. V. г. г. выдаў распараджэньне аб звальненьні, згодна з пастановай сэнату, сядзеўшага ў турме сэн. В. Рагулі.

На гэты-ж дзень мела разглядацца справа сэн. Рагулі ў Віленскім Апэляцыйным Судзе, але да разгляду яе не дайшло.

**Беларускі Гаспадарскі „Зьвяз".** Улады зацьвердзілі новую беларускую арганізацыю пад назовам: „Беларускі Гаспадарскі Зьвяз". Закладчыкамі зьяўляюцца пасол Янка Станкевіч, гр. Выслаух і Кісель. Старшынёю Беларускага Гаспадарскага Зьвязу абраны пас. Янка Станкевіч, сябры ўраду: А. Астроўская, Ю. Мурашка, К. Кісель і Э. Паўкшта.

**Суд Грамады.** 7 траўня пачаліся прамовы пракурораў, абвінавачваючых на працэсе Грамады. Пракуроры гаварылі ў працягу двух дзён, падтрымліваючы акт абвінавачаньня. Ад 9 траўня пачаліся прамовы абароны, першым гаварыў адвакат Сьмяроўскі. Працэс патрывае яшчэ тыдняў два.

**Лекцыя ў Беларускім Інстытуце.** 5 траўня ў салі Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры адбылася лекцыя на тэму: „Беларусь у сучаснай польскай літэратуры". Лекцыю прачытаў пасол Альбін Стэповіч.

**Беларусы ў Амэрыцы.** 25 сакавіка г. г. ў Чыкаго ў Злучаных Штатах беларуская калёнія сьвяткавала 10-ыя ўгодкі аб'яўленьня незалежнасьці Беларусі. Кс. Ян Тарасэвіч адправіў набажэнства, а пасьля адбылася ўрачыстая акадэмія, аб якой падаём у іншым месцы.

**Беларуская дэлегацыя ў віленскага арцыбіскупа.** Жодзіскія парахвіяне-беларусы былі прыняты віленскім арцыбіскупам Яблжыкоўскім у справе ўвядзеньня ў жодзіскім касьцёле беларускіх казаньняў, якія адбываліся за часоў кс. Гадлеўскага.

**Пераклад „Pana Tadeusza" на беларускую мову.** Як даведваемся, абвінавачаны і суджаны ў справе Грамады б. пасол Тарашкевіч працуе над перакладам вялікага твору сына нашае зямлі найвялікшага поэты польскага Адама Міцкевіча „Pan Tadeusz" на беларускую мову.

**Звальненьне з турмы беларусаў.** Арыштованыя падчас выбараў сябры Беларускае Хрысьціянскае Дэмакрацыі і Сялянскага Саюзу звольнены з турмы.

**Арышт б. пасла Сабалеўскага.** 8 траўня арыштованы па загаду сьледчага судзьдзі б. пасол Юры Сабалеўскі, які ўваходзіў да Б. С.-Р. Грамады, а пасьля да беларускага Пасольскага Клюбу.

## Апошнія навіны.

**Замах на савецкага гандлёвага прадстаўніка ў Польшчы.** 4 траўня г. г. ў Варшаве на адной з найбольшых вуліц, сярод белага дня расейскі эмігрант Юры Вайцехоўскі, сын былага віцэ-губэрнатара ў Калішы, страляў да прадстаўніка С. С. С. Р. па справах гандлёвых Лізарэва.

Лізарэў ехаў ў аўтамабілі з двома ўрадоўцамі савецкай гандлёвай місіі ў Польшчы. Калі аўтамабіль дзеля вялікага руху на вуліцы затрымаўся, Вайцехоўскі 2 разы выстраліў з рэвальвэру, але не папаў у едучых у аўтамабілі бальшавікоў, а толькі разьбіў шкло аўтамабіля, асколкамі якога быў ранены Лізарэў. Сам Вайцехоўскі скрыўся ў памешканьні „Расейскага Дому", эміграцкае расейскае установы, дзе быў арыштаваны паліцыяй. На дапросе Вайцехоўскі заявіў, што мсьціўся за сьмерць свайго бацькі, растралянага бальшавікамі. Лізарэва ня знаў і асабіста проці яго нічога ня мае.

Вайцехоўскаму 23 гады, ён студэнт і пражываў з сям'ёю ў Міляноўку, пад Варшавай, як расейскі эмігрант.

У выніку гэтых стрэлаў да Лізарэва, паліцыя па загаду пракурора, арыштавала некалькі чалавек расейскіх эмігрантаў на чале з старшынёю Семёновым.

У зьвязку з гэтым выпадкам савецкі пасол у Варшаве Багамолаў перадаў польскаму ўраду ноту, ў

якой даказвае, што расейскія эмігранты, якія пражываюць у Польшчы, карыстаюцца лішняю свабодаю, падтрыманьнем і псуюць добрыя адносіны паміж Польшчай і С. С. С. Р.

Другую ноту па поваду замаху Вайцехоўскага выслаў у Варшаву, цераз польскага пасла ў Маскве, Чычэрын.

У гэтай ноце Чычэрын заяўляе, што эміграндкія расейскія арганізацыі арганізуюць за грошы тых, хто зацікаўлены ў папсаваньні добрых суседзкіх адносін паміж Польшчай і С. С. С. Р., тэрорыстычныя акты проціў прадстаўнікоў савецкай Расеі. Нота далей даказвае, што дзеля захаваньня гэтых адносін польскі ўрад павінен прыняць меры, каб на будучыну эмігранты расейцы не маглі нападаць на прадстаўнікоў С. С. С. Р. і гэтым чынам псаваць сужыцьця дзьвюх суседніх Дзяржаваў.

Польскі пасол у Маскве Патэк быў два разы ў камісара замежных справаў Чычэрына ў зьвязку з ліквідацыяй замаху.

Польская прэса бяз вынятку выказваецца проціў дзейнасьці расейскіх эмігрантаў, якія сваімі выступленьнямі супроць прадстаўнікоў С. С. С. Р. надужываюць права „азылю", на падставе якога пражываюць у Польшчы.

У С. С. С. Р. прыехаў афганскі кароль Аманулаг. Прыбыўшага караля ўжо ў Стоўпцах прывіталі савецкія ўрадоўцы з Масквы і з Менску. Як падаюць газэты, на дарозе з Менску ў Маскву з цягніка ўкрадзены 2 валізы афганскага караля.

Бальшавікі, як могуць, стараюцца паказацца перад каралём, каб здабыць сабе ўплывы ў Афганістане, які аддзяляе С. С. С. Р. ад ангельскіх калёніяў, куды хацелі-б дайсьці камуністыя і пашырыць свае ўплывы.

Бо ведама, найпаважнейшым праціўнікам С. С. С. Р. зьяўляецца дужая Англія.

15 траўня пачнецца перад найвышэйшым савецкім судом у Маскве працэс проціў абвінавачаных у саботажы і згаворы інжынераў, якія працавалі на данецкіх рудніках. Сярод абвінавачаных ёсьць нямецкія грамадзяне. Старшынёю суда мае быць рэктар маскоўскага унівэрсытэту Вышынскі. Абвінавачваць будуць пракуроры Крыленко і Рагінскі. Акт абвінавачаньня закідае абвінавачаным саботаж і зносіны з быўшымі ўласьнікамі руднікоў, якія знаходзяцца заграніцай.

**Літва.** У Коўне пачаліся нарады польска-літоўскае камісіі бясьпечнасьці і ўрэгуляваньня стратаў, якая была ўтворана па конфэрэнцыі ў Крулеўца.

Польская дэлегацыя даручыла літоўскай дэлегацыі проект дагавору аб ненападаньні (прызнаньні граніцаў).

У апошнія часы проціў ураду Вальдэмараса выступіла літоўскае духавенства і хрысьціянска-дэмакратычная партыя. Апошняя выпусьціла адозву проціў systэмы ўрадаваньня вайсковае дыктатуры і проціў роспуску літоўскага сойму. Адносіны паміж Літвою і Польшчаю папраўляюцца, літоўскія ўлады пачалі выдаваць пропускі на пераход граніцы насяленьню пагранічнай паласы.

**У Румыніі** адбыўся ў мясцовасьці Альба-Юлія кангрэс сялянскай партыі, якая зьяўляецца ў опозыцыі да цяперашняга румынскага ўраду. На кангрэсе было каля 100.000 чалавек. Вынесеныя кангрэсам рэзалюцыі дамагаюцца перадачы ўлады прадстаўнікам сялянскае партыі. Гэтая партыя хацела-б вярнуць на румынскі трон прынца Кароля, які пазбаўлены права на панаваньне ў Румыніі яшчэ за жыцьця ягонага бацькі караля Фэрдынанда. Прынц Кароль жыве ў Францыі. Нядаўна ён выехаў у Англію і хацеў вярнуцца ў Румынію падчас сялянскага кангрэсу і нават заказаў два аэрапляны, але ангельскі ўрад не дазволіў скарыстаць з аэрапляпаў і загадаў кандыдату на румынскі трон пакінуць Англію. Цяпер каралём у Румыніі зьяўляецца сын Кароля Міхал, якому толькі 7 гадоў. Краем кіруе рэгэнцыя. Супроць яе выступае сялянская партыя.

**Англія** дабілася уступак ад эгіпэскага ўраду, які востра выступіў проціў лішняе апекі ангельцаў над жыцьцём у Эгіпце. Англія была ўжо выслала ў Эгіпэт свае караблі з войскам, але яны, пасьля згоды Эгіпту на жаданьні Англіі, не даехалі да месца высылкі.

**У кітайскія** справы, дзе ўжо другі год ідзе змаганьне кітайскіх нацыянальністых з дыктатарам паўночнага Кітаю Чан-Тсо-Лінам, якога падтрымлівала Англія і Японія, ўмяшался адкрыта Японія. Нацыяналістыя зусім разьбілі паўночную армію. Калі гэта ўбачыла Японія, дык выслала сваё войска ў Кітай, нібы дзеля абароны сваіх грамадзян, што пражываюць у Кітаі. Кітайскія нацыяналістыя мелі ўжо баі з японцамі і іх разьбілі. Але Японія, як падаюць газэты, павялічыла сваю армію і пачала вайну з кітайцамі, хоць офіцыяльна вайны кітайцам не абʼявіла. З другога боку ў кітайска-японскія справы мае ўмяшацца Амэрыка, якая ня хоча дапусьціць усіленьня японскіх уплываў у Кітаі. Англія астаецца на баку, пакідаючы Японію без дапамогі, таксама, як у свой час, калі ангельцы выставілі сваё войска ў Кітаі, зрабілі японцы.

Кітайцы добра ведаюць, што Амэрыка не дапусьціць да ўсіленьня Японіі коштам Кітаю, і дзеля гэтага нацыяналістычны гэнэрал Чай-Кан-Шэк даў прыказ аб наступленьні на японцаў.

## СЬМЕХ і ЖАРТЫ.

### Пільны вучань.

*Бацька*: Ну што, Алесь, пыталі цябе на гэтым тыдні з лаціны?

*Сын:* А як-жа, татачка, аж чатыры разы.

*Бацька*: Ну і якія-ж маеш адʼзнакі?

*Сын*: Калі яшчэ раз спытаюць, то будзе круглыя пяць.

Адказны Рэдактар і выдавец Ф. Умястоўскі. Druk Józefa Zawadzkiego w Wilnie, вул. Сьв. Анны 3